С этими листовками группа членов БАЖ посетила несколько столичных отделений внутренних дел (ведь чаще всего на фрилансеров давит именно милиция). В мини-брошюре была представлена статистика нарушений прав журналистов и напоминалось, что журналист имеет право на сбор информации, гарантированное ему законом «О СМИ» и Конституцией страны. Предполагалось, что через личный контакт лучше получится достигнуть взаимопонимания и в дальнейшем избежать препятствий работе репортеров со стороны милиции. К сожалению, на контакт с журналистами пошли только в Центральном РУВД. Районный начальник милиции общественной безопасности Артур Шахлай выслушал журналистов и принял у них листовки.

Параллельно этому в специальной рубрике «За фрыланс» на сайте БАЖ стартовали несколько информационных проектов, среди которых «Марфалогія фрылансу», «Размова з рэдактарам» и «Сапраўдны фрылансер».

В серии видеоинтервью под рубрикой «Марфалогія фрылансу» белорусские журналисты рассказывали о том, как они видят работу фрилансера, в чем ее особенности, плюсы и минусы. Рубрика «Сапраўдны фрылансер» посвящена опыту заграничных коллег. В ней размещены истории и советы успешных фрилансеров со всего мира. В «Размову з рэдактарам» попали интервью с руководителями белорусских изданий о том, как их СМИ относится к сотрудничеству со свободными журналистами. Кроме того, на страничке кампании собирается полезная для журналистов информация и публикуются последние новости проекта.

На встрече в Вильнюсе Ольга Черных презентовала последнюю статистику нарушений прав журналистов-фрилансеров в период от президентских выборов, т. е. от 19 декабря 2010 года, до парламентских. Белорусская реальность такова, что именно этот временной промежуток дает наиболее характерную картинку. За год права фрилансеров были нарушены как минимум 94 раза. При анализе данных оказалось, что во время сбора информации ущемляли права репортеров чаще всего сотрудники милиции — целых 70 % от всех случаев. Больше всего «тумаков» физических и моральных пришлось на долю операторов — 34 %, немного реже доставалось корреспондентам — 33 %, дальше идут телекорреспонденты, фотографы и др. А вот в отсроченных правонарушениях безоговорочным лидером стала прокуратура, жертвами которой стали корреспонденты, телекорреспонденты, операторы.

Приятным моментом стала церемония награждения победителей конкурса «Свабодны палёт». Для подачи заявок на конкурс было только одно условие — чтобы материал был о белорусском фрилансе. В форме самореализации участники были не ограничены: принимались фото-, видео-, аудиоматериалы, тексты и даже рисунки. Победителями стали Александр Левчук, который занял сразу два призовых места — первое и третье, и автор этих строк. В качестве приза победителей ожидает поездка в Варшаву на рождественские праздники, где они встретятся с успешными польскими журналистами-фрилансерами.





Кроме белорусских фрилансеров на координационной встрече присутствовали и норвежские коллеги. В Норвегии тема фриланса начала обсуждаться еще 30 лет назад. На сегодняшний день из 10 тысяч членов Союза журналистов Норвегии 800 — фрилансеры. Ерен Ваг, долгое время возглавлявший союз журналистов, рассказал, что почти всю жизнь проработал в формате фриланс и ему это нравилось; тем не менее тенденцию перехода от редакционной работы к фрилансерской Ерен считает негативной. Рынок фрилансеров в Норвегии перенасыщен, и потому работодатели при заключении договоров часто выдвигают «зверские» условия с полной передачей авторских прав свободных журналистов за низкую оплату.

Над тем, как можно помочь журналистам-фрилансерам в профессиональных отношениях с редакциями, начали работать и активисты БАЖ. Юрист Александр Жук детально изучил, как фрилансер может легализоваться в Беларуси. Он рассказал собравшимся о том, как можно оформить ИП, в какие договорные отношения можно вступать с нашими и зарубежными редакциями, как и сколько нужно платить налогов за свою деятельность. Эта информация скоро появится в печатном виде в новом пособии для белорусских журналистов.

Разделившись на группы, участники конференции разработали концепцию интернет-платформы, которая станет рабочей площадкой для журналистов-фрилансеров и заказчиков. По задумке, журналисты будут создавать свои анкеты-предложения с подробной информацией о видах их деятельности, условиях работы, опыте и портфолио. Редакторы будут заполнять форму-заказ с видом предлагаемой работы, сроками ее исполнения и т. д. С помощью поиска на сайте любая из сторон, заполнив один или несколько поисковых пунктов, получит подходящую им выборку.

Координационная встреча была лишь первой из многих планируемых в дальнейшем. Кампания «За фриланс!» не только не заканчивается, но и берется за новые направления. Проделанная работа показала, что проблема фриланса в Беларуси актуальна. Сокоординатор кампании Татьяна Бубликова рассказала, что, когда она договаривалась на первые интервью в рамках «Марфалогіі фрылансу», многие отказывались, поскольку не причисляли себя к этому сообществу. Но в процессе работы оказалось, что понятие фриланс-журналистики намного шире и так или иначе с фрилансом сталкивается большинство журналистов, фотографов, редакторов, обозревателей и даже консультантов, сотрудничающих со СМИ.

# Як пазнаць у журналісце фрылансера?

**Досвед тэрміналагічнага даследавання**



*Таццяна Бублікава*

**Давайце ўявім, што аднойчы ўлада дазволіць выдаваць легальныя пасведчанні журналістам-фрылансерам. Каго ды па якіх прыкметах тады лічыць «вольным стралком»? Кампанія БАЖ «За фрыланс» прапануе няпростыя адказы на простае пытанне.**

За свой рэпарцёрскі досвед я нярэдка адчувала сябе недажурналістам, лохам такім, пазбаўленым звычайных прафесійных правоў. Бо я — журналіст-фрылансер, які не мае пасведчання аб супрацоўніцтве з легальнай рэдакцыяй СМІ. І нас такіх шмат. Часам без легальнага статусу наўпрост немагчыма працаваць. Гэтак, на абвяшчэнне прысуду па справе Някляева і кампаніі міліцыянты запускалі толькі штатных журналістаў з «корачкай». А я разам з іншымі фрылансерамі вымушаная была таўчыся на лесвіцы.

Хочаш зрабіць пратакольныя здымкі — таксама давай доказы, што ты журналіст. Нават вулічная апытанка можа стаць для патрульнага нагодай, каб запатрабаваць твае дакументы. Фрылансеры сутыкаюцца з абмежаваннем прафесійных правоў, не кажучы ўжо пра грамадзянскія, калі журналіст без пасведчання папросту атрымлівае «суткі за ўдзел».

Калі пакінуць за межамі суцэльны недавер і падазронасць афіцыйных асоб да журналістаў, то, у прынцыпе, можна прызнаць іх права ведаць, з кім яны маюць справу. І нішто не адкажа ім на гэтае пытанне лепей за афіцыйнае пасведчанне. Аднак у нашым недасканалым заканадаўстве зарыты сабака, і панятак журналіста-фрылансера выводзіцца за межы прававога поля. І што тут рабіць, акрамя як уводзіць яго на належнае законнае месца.

## Пытанне на засыпку

Давайце ўявім, што аднойчы ўлада дазволіць выдаваць легальныя пасведчанні журналістам-фрылансерам... Хай бы пасведчанні выдавалі БАЖ, нават Мінінфарм або іншая якая інстытуцыя — не істотна. Важна, каго ды па якіх прыкметах мы тады будзем лічыць фрылансерам. Бо сёння вы не знойдзеце ніводнага закона, указа, пастановы, дзе хоць слоўца было б напісана пра журналістаў-фрылансераў. Не кажучы ўжо пра пэўную, дакладную дэфініцыю, хто такія журналісты-фрылансеры. І не дзіва: у Беларусі фрылансерства толькі пачынае сваё станаўленне. І калі з гэтай прычыны мы не маем гатовай дэфініцыі, то прыйдзецца выпрацоўваць яе самім.

Хто такі журналіст-фрылансер? Гэткае пытанне на засыпку прынесла нямала клопату актывістам кампаніі «За фрыланс». І ў галовах афіцыйных асоб, і ў галовах саміх журналістаў пры спробе зразумець сутнасць фрылансу адбываецца неразбяруха. Пэўныя веды, атрыманыя на працягу года, мы і прапануем на суд чытача.

Да высвятлення сутнасці журналіста-фрылансера можна падыходзіць з розных бакоў:

1) філалагічны — шукаць адказы ў лексічным сэнсе словаў;

2) юрыдычны — апеляваць да законаў і законна-падзаконных актаў;

3) з боку міжнароднага права — пераняць дэфініцыі больш развітых супольнасцяў;

4) фактычны падыход — гэта чыста даследчыцкая пазіцыя, апісанне з'явы ды выяўленне яе дыферэнцыйных прыкметаў.

## Першым пра фрылансераў сказаў Вальтэр Скот

Упершыню слова *фрылансер* (ад free lance — свабодная дзіда) выкарыстаў Вальтэр Скот у рамане «Айвенга» (1820), каб апісаць сярэднявечнага

воіна-найміта, які не прысягаў сваёй дзідай служыць нейкаму пэўнаму лорду. Гэта значыла, што дзіда свабодная для замовы. У 1860-х слова *фрылансер* ужо выкарыстоўвалася ў пераносным сэнсе, у 1903 годзе Оксфардскі слоўнік прызнаў яго дзеясловам.



А мы маем справу з тэрмінам «журналіст-фрылансер», ён складзены са словаў *журналіст* і *фрылансер.* Адпаведна, і ягонае значэнне сумяшчае назву прафесіі або роду заняткаў асобы («журналіст») з вызначэннем асобы паводле способу рэалізацыі сваіх прафесійных задач («фрылансер»).

Калі са словам «журналіст» усё зразумела, то аналіз сэнсу слова «фрылансер» мае цікавыя акалічнасці. У нашай мове гэта слова запазычанае. І яго лексічнае значэнне мусіла б паўтараць значэнне слова-крыніцы. Але гэта не так. Сучасныя слоўнікі запазычаных словаў даюць наступнае значэнне слова фрылансер: *англ. Freelancer < freelance — працаваць не па найме; амер. — пазаштатны карэспандэнт, незалежны журналіст, які сам абірае тэмы будучых матэрыялаў. Фрылансер не звязаны з пэўнай рэдакцыяй.*


**ФРИЛЕНСЕР**

Розніца паміж значэннем нашага і амерыканскага слова «фрылансер» відавочная, і мы як носьбіты мовы гэта адчуваем. У ЗША так называюць асобаў, прыналежных да выключна журналісцкага віду дзейнасці. У нас гэтае слова пакуль яшчэ ўжываецца ў шырокім сэнсе і выкарыстоўваецца для абазначэння шырокага кола працаўнікоў інтэлектуальнай сферы. У нас бываюць мастакі-фрылансеры, дызайнеры-фрылансеры, айтышнікі-фрылансеры і г. д. Што цікава, у англійскай мове фрылансерам таксама называюць прафесійнага палітыка, які не прывязаны да нейкай пэўнай партыі. Гэтакі шырокі, у параўнанні з амерыканскім, сэнс нашага слова «фрылансер» цалкам адлюстроўвае стан спраў у гэтай сферы: мы пакуль што знаходзімся ў самым пачатку працэсу нармалізацыі і кадыфікацыі дадзенай моўнай адзінкі.

Такім чынам, з пункту гледжання лексікі можна прапанаваць наступныя дэфініцыі тэрміна «журналіст-фрылансер»:

*сціслa:* журналіст-фрылансер (свабодны журналіст, пазаштатны журналіст) — гэта журналіст, які ажыццяўляе сваю дзейнасць без працоўнага найму;

*падрабязна:* журналіст-фрылансер (свабодны журналіст, пазаштатны журналіст) — гэта найменне асобы, якая ажыццяўляе журналісцкую дзейнасць на прафесійнай або іншай аснове ва ўмовах самазанятасці, без доўгатэрміновых працоўных стасункаў з нейкай пэўнай рэдакцыяй.

## Прафесійная дыскрымінацыя — у законе

На жаль, беларускае заканадаўства ніяк не дапамагае зразумець, хто такі журналіст-фрылансер. З гэтым аспектам шчыльна працуюць юрысты БАЖ. Вынікі іх работы можна знайсці ў брашуры «Прававыя аспекты дзейнасці журналістаў-фрылансераў», якая выйшла ў 2012 годзе.

Заўважым толькі, што беларускае заканадаўства прапануе тлумачэнне толькі першай часткі панятка «журналіст-фрылансер». Дый то з пэўнымі абмежаваннямі. Заканатворца звужае паняцце «журналіст» да тэрміна «журналіст сродку масавай інфармацыі». Звужальным фактарам выступае тут факт дачынення (працоўнага або на падставе іншых дамоваў) да афіцыйнай (чытай: зарэгістраванай) рэдакцыі СМІ. Логіка «Закона аб СМІ» выкідае за межы прававога поля журналістаў, якія працуюць для незарэгістраваных СМІ — медыяў, пазбаўленых рэгістрацыі, медыяў, для якіх рэгістрацыя не прадугледжаная (інтэрнэт-СМІ) ды медыяў, якім дзяржава адмаўляе ў рэгістрацыі.

Паводле логікі «Закона аб СМІ», калі асоба, якая займаецца журналістыкай, не мае працоўнага або іншага дачынення да афіцыйнай рэдакцыі СМІ, то правы і абавязкі журналіста на гэту асобу не распаўсюджваюцца. Сумна канстатаваць, але «Закон аб СМІ» дыскрымінуе па прыкмеце прафесійнай прыналежнасці большасць журналістаў-фрылансераў і нават штатнікаў, што працуюць у інтэрнэце.

## Міжнароднае права

Замежнікі не такія пладавітыя на вызначэнне журналіста-фрылансера, як хацелася б. У іх няма вялікай патрэбы вылучаць гэтую катэгорыю з

агульнай прафесійнай супольнасці, ды колькасць выпадкаў парушэнняў правоў журналістаў зайздросна малая. Аднак, калі мы хочам дэфініцыю, еўрапейцы маюць што прапанаваць.

Паводле фармулёўкі Фонда ім. Роры Пека, фрылансер — гэта журналіст, у якога няма сталага кантракта з медыяарганізацыяй, ён працуе ў некалькіх СМІ без фіксаванага заробку, атрымліваючы ганарары за кожнае асобнае заданне.

Паводле Вікіпедыі, фрылансер (пазаштатны работнік, пазаштатнік) — гэта самазанятая асоба, якая не звязаная з канкрэтным працадаўцам у доўгатэрміновай перспектыве.

## А насамрэч

Сапраўдныя навукоўцы, калі бачаць незнаёмага звера, імкнуцца паназіраць за ім, даведацца пра яго як мага болей і толькі потым заносяць у тэматычную энцыклапедыю. Гэтак зрабілі і мы: паспрабавалі апісаць з'яву і вылучыць яе дыферэнцыйныя прыкметы. Тут мы грунтуемся на ўяўленнях беларускіх журналістаў пра фрыланс, а таксама на самавызначэнні беларускіх фрылансераў. Інфармацыя збіралася шляхам анкетавання, адкрытых апытанняў у сацыяльных сетках, а таксама ў фармаце персанальных інтэрв'ю — спецыяльны праект БАЖ «Марфалогія фрылансу».




**Апытанне журналісцкай думкі**, якое правялі на пачатку 2012 года, было адкрытым і мела на мэце выявіць прыкметы журналіста-фрылансера. Было прапанавана працягнуць думку: «Беларускім журналістам-фрылансерам можна назваць чалавека, калі ён/яна...»



Большасць удзельнікаў апытання вылучылі як галоўную дыферэнцыйную прыкмету журналіста-фрылансера тое, што асноўны яго даход складаюць ганарары ад журналісцкіх матэрыялаў (болей за 50 %).

На другім і трэцім месцах знаходзяцца пункты, якія апісваюць стасункі журналіста-фрылансера з замоўцамі. Гэтак, іх можа быць некалькі або адзін, пры гэтым журналіст працуе не ў штаце.

Бок сацыяльнага забеспячэння журналістаў-фрылансераў сярод сэнсавызначальных прыкмет займае другасную пазіцыю. Такія прыкметы фрылансерскай долі, як адсутнасць гарантаванага аплачванага адпачынку, медычнага забеспячэння, а таксама праца па-за офісам, журналісты ставяць на апошнія месцы па актуальнасці. Сфера легалізацыі сябе як суб'екта гаспадарання, што ў апытанні паказана праз самастойную сплату падаткаў, знаходзіцца на перыферыі актуальнасці прыкметаў фрылансера.

**Самавызначэнне**. Блізкія погляды на сутнасць фрылансу аказаліся і ў саміх журналістаў-фрылансераў. У межах іх анкетавання, што праводзілася ў кастрычніку 2012 года, было зададзена пытанне: «Што з ніжэй пазначанага вызначае журналіста-фрылансера?»



**Сутнасць фрылансу**

14. Што з ніжэй пазначанага вызначае журналіста-фрылансера? (Можна выбраць некалькі варыянтаў)

- ☐ Асноўны даход складаюць ганарары ад журналісцкіх матэрыялаў
- ☐ Супрацоўнічае з некалькімі рэдакцыямі СМІ
- ☐ Супрацоўнічае з адной рэдакцыяй СМІ, але не мае з ёй працоўнай дамовы (не блытайце з дамовай падраду)
- ☐ Мае працоўную дамову з адной рэдакцыяй СМІ, але супрацоўнічае з іншымі рэдакцыямі СМІ, з чаго мае асноўны даход
- ☐ Пазаштатны карэспандэнт таксама фрылансер
- ☐ Свой варыянт

Рэспандэнты найбольш упадабалі пункты 2 і 5: «супрацоўнічае з некалькімі рэдакцыямі СМІ» і «пазаштатны карэспандэнт — таксама фрылансер». То бок найважнейшымі з'яўляюцца факты супрацы з больш чым адной рэдакцыяй без працоўнай дамовы ці пазаштатна. На трэцяе месца па істотнасці стаў пункт пра даходы з ганарараў.

Што датычыць разнастайнасці формаў супрацы — ці можа фрылансер пазаштатна працаваць на адну рэдакцыю, ці можа ён мець працоўную дамову з пэўнай рэдакцыяй, але супрацоўнічаць з іншымі, — то для рэспандэнтаў тут вялікай розніцы няма. Такія формы супрацы прызнаюцца як магчымыя для фрылансераў, аднак па важнасці займаюць другасную пазіцыю. З асцярожнасцю рэспандэнты паставіліся да

пункта, які вызначае ў якасці фрылансера сталага супрацоўніка пэўнай рэдакцыі, які, аднак, пазаштатна супрацоўнічае з іншымі, з чаго і мае асноўны даход.

## Чысты і змешаны фрыланс

Дзеля справядлівасці варта зазначыць, што ўсе 5 прапанаваных у анкеце пунктаў у пэўнай ступені з'яўляюцца вызначальнымі для журналіста-фрылансера. Яны суадносяцца з міжнароднай пазіцыяй ды адпавядаюць меркаванням саміх журналістаў, адлюстраваным у праекце «Марфалогія фрылансу». Гэтак, журналістка Адар'я Гуштын кажа: «Падаецца, што гэта супрацоўнік нейкай рэдакцыі, але калі паглядзець агулам на яго працу, то ён працуе адначасова з пяццю выданнямі, таму мне здаецца, што яго спакойна можна прылічыць да фрылансераў».

Мяркуем, што для беларускай сітуацыі будзе слушна адрозніваць фрыланс-журналістыку ў *чыстым выглядзе* і *змешаным*. Пад чыстым, хрэстаматыйным узорам мы разумеем наступнае.

> **Журналіст-фрылансер — чалавек, які ажыццяўляе журналісцкую дзейнасць на прафесійнай аснове, які супрацоўнічае з адным і болей СМІ пазаштатна, што значыць не мае сталай працоўнай дамовы; прыкмета прафесійнасці дзейнасці вынікае з факта, што ён атрымлівае асноўную частку даходаў ад журналісцкай дзейнасці.**

Тут важна, што ў дзейнасці чалавека ёсць дзве генеральныя прыкметы журналіста-фрылансера: 1) чалавек займаецца журналістыкай прафесійна (г. зн. жыве за даход ад журналісцкай дзейнасці), 2) ажыццяўляе сваю дзейнасць у фармаце фрыланс (г. зн. не звязаны з пэўнай рэдакцыяй працоўнай (у юрыдычным сэнсе) дамовай).

**Да змешанага віду фрыланс-журналістыкі** слушна прылічыць сітуацыі, калі адна з генеральных умоваў фрылансу выконваецца часткова. Напрыклад, у адным СМІ прафесійны журналіст працуе ў штаце, а з іншым супрацоўнічае пазаштатна, аднак вялікую частку яго даходаў складаюць ганарары. Таксама да гэтага віду фрылансу можна далучыць выпадкі, калі не да канца выконваецца генеральная ўмова журналісцкай дзейнасці. Напрыклад, чалавек можа працаваць у рэжыме фрыланс, але ў якасці журналіста толькі пэўную частку свайго часу, астатні ж час прысвячаць выкладчыцкай дзейнасці.

У памежных сітуацыях, калі паўстае вялікая неабходнасць ідэнтыфікаваць журналіста-фрылансера, то варта мець на ўвазе адпаведнасць генеральным прыкметам. Ды таксама звярнуць увагу на наступныя акалічнасці.

1. **Даход**. Калі больш за 50 % даходу складаюць выплаты за журналісцкую дзейнасць, то чалавек з'яўляецца журналістам.

2. **Час**. Праца ў рэжыме фрыланс не з'яўляецца нязменнай велічынёй і неад'емнай характарыстыкай чалавека, гэта не колер скуры або форма вачэй. Замоўца можа наняць спецыяліста на выкананне пэўнага задання, для працы над пэўным праектам, для напісання пэўных тэкстаў. На час выканання гэтай замовы спецыяліст лічыцца фрылансерам.

3. **Прафесійнасць**. Пісаць умеюць усе, але не ўсе з'яўляюцца журналістамі, і наяўнасць або адсутнасць журналісцкага дыплома тут не з'яўляецца вызначальнай. Журналіст мусіць валодаць наборам прафесійных ведаў, уменняў і навыкаў ды якасна іх выкарыстоўваць на практыцы, пажадана ў рэгулярным фармаце.

## Замест падарункаў

У снежні споўніўся год, як у БАЖ распачалася кампанія «За фрыланс». Найвялікшым падарункам для нас, вядома, было б прызнанне журналістаў-фрылансераў на афіцыйным узроўні. Аднак гэта, без сустрэчнага памкнення ўлады, адкладаецца на неакрэслены час. Але што можна зрабіць неадкладна — дык гэта нам самім намаляваць дакладны партрэт журналіста-фрылансера і, магчыма, пазнаць у ім сябе. Чым болей народу прызнае сябе за фрылансераў, тым гучнейшым стане голас супольнасці, правы якой ужо немагчыма будзе ігнараваць.

# ИГОРЬ ЧАЙКА:

## *«Пускай хоть все СМИ в мире сообщат, что вас побили, но, если в райотделе нет вашего заявления, — считайте, что ничего не было»*

Опасная ли это профессия — журналист? Опасная. Настолько же, насколько может быть опасной любая работа, связанная с людьми и их интересами, экономикой, политикой или социальной жизнью. Но, как в любой профессии, в журналистской тоже существуют правила техники безопасности — при их соблюдении многие риски можно свести к минимуму.



*В этом абсолютно уверен украинский сценарист и режиссер, директор студии медиапроектов «Стражи демократии» Игорь ЧАЙКА. Недавно Чайка снял фильм о проблемах журналистской безопасности в Украине. Почти одновременно в Беларуси появилась книга «В зоне риска. Пособие по безопасности для белорусских журналистов».*

*Сабина Брило, один из авторов пособия, обсудила с Игорем Чайкой актуальную тему.*

— Я разбирался в самых разных ситуациях, касающихся журналистской безопасности, много беседовал с коллегами, записывал интервью, — рассказывает Игорь Чайка. — Кроме того, я вхожу в так называемую «группу быстрого реагирования» при медиапрофсоюзе Украины. Когда кто-то из членов медиапрофсоюза попадает в небезопасную ситуацию, мы — несколько человек, с юристом — едем на помощь. На основании этого опыта я убежден, что 90 % ситуаций, которые приводят журналиста к печальным последствиям, к сожалению, в первую очередь связаны с тем, что люди просто не соблюдают элементарных правил безопасности, «гигиены» профессии. В том числе этических стандартов.

Например, все прекрасно знают, что при подготовке материала нельзя договариваться с кем-то из фигурантов за плату или на других условиях представлять его историю определенным образом. Если тот, кто называется журналистом, позволяет себе такое, — он автоматически перестает быть застрахованным от неожиданных последствий. Грубо говоря, его купили — и с ним могут поступать так, как заблагорассудится.

Есть также ряд правил, которые обязательно должен соблюдать человек, занимающийся журналистскими расследованиями. Этот жанр овеян ореолом некой романтики, благородного экстрима… И часто молодой журналист, которому интересно заняться расследованием, нащупав тему, думает: «Вот я сейчас сам, один, узнаю все тайны, разоблачу негодяя, соберу всю информацию, сделаю классный материал — и стану знаменитым!» Подобная установка — одна из первейших опасностей, которые приводят к проблемам. Нельзя, работая в серьезной журналистике, особенно в жанре расследования, быть единоличным носителем информации. Ведь для того, кому не выгодно, чтобы эта информация стала общедоступной, самый простой способ обезопасить себя — это убрать источник. Поэтому нужно

работать хотя бы в паре, а лучше, если несколько человек страхуют вас, обладая этой же информацией. И желательно, чтобы редактор тоже был хотя бы в курсе того, чем вы занимаетесь, имел представление о тех направлениях, которые вы разрабатываете.

— Каждому, кто решил посвятить себя журналистской профессии, очень полезно выучить не только свод правил профессионального поведения, но и ряд положений законодательства, согласно которым он будет действовать и на основании которых сможет работать. И тогда



Занимаетесь ли вы расследованием или острой темой — никогда нельзя поспешно соглашаться на встречи, которые вам назначает неизвестный человек. Вот кто-то звонит вам по телефону, приглашает куда-то и обещает эксклюзивную информацию. Вы не должны соглашаться на встречу в неизвестном месте, идти на нее в одиночку. Вас должен обязательно кто-то страховать! Возьмите инициативу в свои руки. Назначьте место сами — например, в кафе, где есть люди, наличие которых уже само по себе становится гарантией вашей безопасности.

Мы все знаем, что нельзя идти на красный свет, совать пальцы в розетку или в огонь, — точно так же и в профессии журналиста есть набор простых правил, которые дают возможность чувствовать себя достаточно безопасно. Здесь, конечно, как и в жизни, — вы можете переходить дорогу исключительно на зеленый свет, но нет гарантии, что пьяный водитель в этот момент не выскочит из-за угла. Может упасть на голову кирпич или большая сосулька, но это уже форс-мажор, застраховаться от которого практически невозможно. И в журналистике бывает всякое. Но, если соблюдать самые простые правила, это не только поможет вам работать, но и в очень большой степени обезопасит от печальных последствий.

*— Когда мы начинали работать над пособием по безопасности для белорусских журналистов, то первым делом опросили коллег: кто же, по их мнению, является «основным агрессором» для них здесь и сейчас. Большинство ответили: «Власть». Как Вы предлагаете противостоять этому агрессору?*

в случае выяснения отношений или если кто-нибудь из чиновников, милиции начинает говорить: «Вы не имеете права», — журналист может четко ответить: «Нет, уважаемый, я имею право на основании статьи такой-то Закона такого-то». Это в 90 % случаев снимает проблему, потому что они законов, как правило, не знают. А если знают, то убеждаются в том, что и вы знаете. И на следующие попытки не дать вам делать то, что вы делаете на основании закона, вы можете сказать: «Уважаемый, я вас поздравляю, вы нарушаете закон».

Кстати, в Уголовном кодексе Украины есть статья 171 (в Беларуси аналогичная статья 198 УК. — *С. Б.*), которая предусматривает довольно серьезное, вплоть до лишения свободы, наказание за воспрепятствование законной профессиональной деятельности журналиста. К сожалению, милиция и прокуратура делают все, чтобы не возбуждать дело именно по этой статье, — находят «хулиганку», еще что-то... Объяснить это очень просто: я считаю, что власть, прокуратура и милиция смертельно боятся такого прецедента и не хотят его создавать. Потому что, если он будет создан, то по этой статье надо будет повально наказывать чиновников, милиционеров, представителей силовых, охранных структур и так далее.

*— Насколько, по-Вашему, отличаются проблемы журналистской безопасности у вас в Украине и у нас, в Беларуси?*

— Проблемы, в общем-то, одинаковые — связанные с доступом к информации и ее распространением. Различия в первую очередь зависят

от законодательства страны. Например, по украинскому законодательству журналист имеет полное право прийти в супермаркет или любое публичное место и работать с видеокамерой, фотоаппаратом — с какими угодно техническими средствами. Поскольку по закону нахождение в общественном, публичном месте позволяет журналисту исполнять свои профессиональные обязанности, не спрашивая на это разрешения ни у кого — ни у хозяина супермаркета, ни у посетителей. В Беларуси в этом отношении, может быть, иначе... Но общего у нас больше, чем различий, — и это позволяет нам учиться на ошибках друг друга.

К великому счастью, в Украине пока нет ситуации, которая есть, к сожалению, у вас. Никто у нас — никакие коротко стриженые люди в черном — не подбежит на улице к журналисту, не схватит его за руки, не начнет запихивать в автозак и увозить в неизвестном направлении, чтоб потом коллеги и родственники долго выясняли, куда же человек пропал. Глядя на такую ситуацию из Украины, иначе как бандитизмом это назвать нельзя. Причем неприкрытым бандитизмом, «крышуемым» властью, поскольку, как мне известно, никто из этих «людей в черном» наказан не был. Я знаю, что журналисты, общественные деятели, активисты потом сами находили по фотографиям людей, которые их хватали, и оказывалось, что эти «бандиты» — сотрудники спецслужб или курсанты милицейских школ, действовавшие, понятно, не по своей воле, а по приказу... В Украине такого нет.

Да, у нас тоже журналисты, фотографы могут пострадать на акциях, получить пинка, им могут намять бока... Но у нас можно обжаловать эти действия и добиться какого-то результата. Например, несколько лет назад журналист Сергей Андрушко пострадал от действий президентской охраны, которые ни один суд до сих пор не решился квалифицировать как незаконные. Но мы жалуемся в Европейский суд по правам человека, мы ждем его вердикт... Вот это, наверное, одно из самых важных отличий: у нас больше возможностей для правового регулирования ситуации. Но это очень тонкая грань, и я неустанно продолжаю повторять, что если политическая ситуация в Украине не улучшится, то мы приблизимся к вашим реалиям, и это не тот случай, когда сближение радует... Еще чуть-чуть — и мы будем приезжать к вам за печальным опытом, чтобы уже здесь советоваться с коллегами, как нам поступать в той или иной ситуации, до которой у нас пока, слава Богу, дело не дошло.

*— А что бы Вы посоветовали нашим журналистам — и как коллега, и как наблюдатель?*

— Журналист должен знать свои права и обязанности. Должен знать законодательство в той области, в которой он работает. И самостоятельно беспокоиться о своей безопасности. В случае всех конфликтов, связанных с профессиональной деятельностью, надо обращаться в милицию, прокуратуру, привлекать адвокатов. Иногда журналист — по разным причинам (то ли не хочет возиться, то ли не видит смысла) — просто предает проблему огласке и успокаивается. Но я считаю, что после любого конфликта, в том числе и с представителями власти, обязательно надо писать заявление в милицию и в прокуратуру. Если не чувствуете уверенности сами, нужно найти юриста, который поможет это сделать. В Беларуси есть хорошие медиаюристы. Надо идти к ним. Да, это отнимает время, нервы. Это нудно и противно, но этим надо заниматься. Потому что, даже если ситуация получит большой резонанс и все напишут, поговорят, спустят пар, — потом ведь окажется, что все равно никого не наказали. И в милиции или прокуратуре журналисту скажут: «Дружок, а какие к нам претензии? У нас нет ни одной бумажки, на основании которой мы можем работать». И пускай хоть все СМИ в мире сообщат, что вас побили, но, если в районном отделе милиции нет заявления от вас как от пострадавшего, — считайте, что, собственно, ничего и не было. И мало того, что у вас останется ощущение беззащитности (хотя вы сами в первую очередь в этом виноваты), так ведь таким образом мы порождаем безнаказанность. Ну неприятно чиновнику или милиционеру, когда произошла огласка. Но через неделю-две, когда обсуждения-разговоры закончатся, он облегченно вздохнет — и все. А вот если заведено дело — от этого ему отвертеться уже гораздо сложнее. Тут есть шанс, что не помогут ни деньги, ни связи, что будет действовать закон. И вот об этом надо помнить. Какое бы государство ни было — тоталитарное, авторитарное, капиталистическое, коммунистическое, — в любом государстве есть законы. И надо заставлять их работать.

*P. S. Документальный фильм Игоря Чайки «Безопасность журналистов — украинский практикум» можно посмотреть на сайте БАЖ: http://baj.by/be/node/18512*

***Фото автора***

# Украінскія выбары

## раструшчылі свабоду прэсы



Барыс Гарэцкі

**Выбары ва ўкраінскую Вярхоўную Раду — ці не самая важная палітычная падзея ў жыцці паўднёвай суседкі Беларусі. Пасля знакамітай Памаранчавай рэвалюцыі і вострага канфлікту паміж Юліяй Цімашэнка і Віктарам Юшчанкам паўнамоцтвы прэзідэнта ва Украіне былі значна зменшаныя, а Рада стала ледзь не галоўным інстытутам улады ў краіне.**

Падчас нядаўняга лістападаўскага галасавання на 450 месцаў у радзе прэтэндавалі адразу некалькі тысяч кандыдатаў. Палова з іх ішла па партыйных спісах, яшчэ 225 кандыдатаў — у аднамандатных акругах па ўсёй краіне.

У адрозненне ад Беларусі, дзе парламенцкія выбары называюць святам, у блізкай да нас ды такой жа постсавецкай Украіне інтрыга калаўроціць да самага канца напружанай кампаніі. Сенсацыі здараюцца нават пасля падвядзення афіцыйных вынікаў.

Пасля сёлетняй парламенцкай кампаніі аналітыкі зазначылі, што выбарчы працэс хоць і праходзіць ва Украіне значна больш празрыста, але не пазбаўлены фальсіфікацыі. Абсалютна ўсе палітычныя эксперты гавораць, што асноўная праблема ўкраінскіх выбараў — гэта не махінацыі з бюлетэнямі, «каруселі» ці нешта падобнае, а «прамыўка мазгоў», зачыстка інфармацыйнага поля.

Параўноўваючы сітуацыю ў Беларусі і Украіне, ніколі не скажаш, што ў паўднёвай суседкі існуюць тыя ж самыя праблемы з доступам да незалежнай інфармацыі, якія ёсць у нас. Кіеў заўсёды здаецца беларусам шумным горадам, насычаным рознымі інфармацыйнымі і аналітычнымі выданнямі, незалежнымі тэлеканаламі... Аднак, як высветлілася, і тут па ўзоры беларускай мадэлі ўлады прыкладаюць усе намаганні для ўтаймавання не падкантрольнага ім слова.

*«Нягледзячы на знешнюю дэмакратычнасць, толькі ў сам дзень галасавання было зафіксавана некалькі дзясяткаў перашкодаў працы журналістаў,* — распавядае часопісу "Абажур" выканаўчы дырэктар незалежнага Інстытута масавай інфармацыі Вікторыя Сюмар. — *З некаторых участкаў журналістаў выгналі, у адным — нават разбілі тэхніку за спробу сфатаграфаваць парушэнне».*

*«Наогул уся парламенцкая кампанія дэманстравалася ў СМІ вельмі аднабакова. Не ўсе палітычныя сілы карысталіся аднолькавым доступам да інфармацыйнага поля, а спажыўцы чарговы раз мелі справу з так званай "джынсой": ва Украіне купляліся нават цэлыя інфармацыйныя выпускі на тэлебачанні, вядомыя ток-шоу суправаджаліся вялікімі скандаламі з прычыны выбару ўдзельнікаў, многіх з якіх сілавыя органы проста не пускалі на тэлебачанне. Ёсць безліч зафіксаваных выпадкаў, калі кандыдаты плацілі дзясяткі тысяч даляраў за свой удзел у ТВ-праграмах»*, — сцвярджае эксперт.

*«Тое ж самае датычыла і друкаванай прэсы: многія нібыта незалежныя агульнапалітычныя газеты па шэсць (!!!) палос аддавалі "правільным" палітычным сілам. У той час як дзеянні апазіцыі проста замоўчваліся. У друк ішлі матэрыялы абсалютна аднолькавага стылю — не што іншае, як падрыхтаваныя ў штабах кандыдатаў рэкламныя тэксты. Вельмі часта пасля выкупленых плошчаў у газетах не заставалася месца нават для рэдакцыйных артыкулаў. Шэраг журналістаў нават вырашылі звольніцца са сродкаў масавай інфармацыі з прычыны засілля палітычнай прапаганды»*, — дадае Вікторыя Сюмар.

Яскравым прыкладам такога пратэстнага звальнення стаў сыход з папулярнага тэлеканала СТБ Наталлі Сакаленка. Журналістка напісала адкрыты ліст пратэсту кіраўніцтву кампаніі, бо амаль увесь эфір аднаго з асноўных украінскіх тэлеканалаў быў запалонены сюжэтамі, падрыхтаванымі ў штабах палітычных партый. Па сведчаннях журналістаў, для падрыхтоўкі падобных матэрыялаў нават не запрашаліся самі рэпарцёры — у рэдакцыю дасылаліся гатовыя стужкі, якія тэлеканал выдаваў у эфір у якасці ўласнага прадукту.

Украінская асацыяцыя медыяюрыстаў і Нацыянальны саюз журналістаў Украіны на час выбараў адкрылі адмысловую гарачую лінію. Яны адсочвалі парушэнні правоў

журналістаў падчас кампаніі. Па выніках галоўнай прычынай зваротаў на гарачы тэлефон у дзень галасавання сталі неправамерныя дзеянні выбарчых камісій і іншых органаў улады, якія не пускалі альбо выганялі журналістаў з участкаў.

*«Роўна ў сярэдзіне дня праца нашай гарачай лініі была заблакаваная*, — распавядае "Абажуру" Алег Налівайка, старшыня Нацыянальнага саюза журналістаў Украіны. — *Але, як правіла, перашкоды журналістам масава ўчыняліся да дня галасавання і пасля яго. Адразу пасля выбараў у шэрагу нават самых паважаных украінскіх выданняў пачаліся разборкі з тымі ці іншымі журналістамі: ты не так сябе паводзіў, не пра таго казаў, ты — вінаваты!»*

Налівайка канстатуе: выбары вельмі моцна палярызавалі журналісцкую супольнасць, падзялілі яе на тых, хто гатовы падпарадкоўвацца грошам і ўладзе, і тых, хто на гэта ніколі не пойдзе. Па ягоным назіранні, на наступны дзень пасля сканчэння парламенцкай кампаніі ва Украіне пачалася падрыхтоўка да выбараў прэзідэнцкіх.

*«Як толькі будуць абвешчаныя канчатковыя вынікі парламенцкіх выбараў і пачнецца прэзідэнцкая гонка, я вельмі баюся спробы перадзелу медыярынку*, — гаворыць Алег Налівайка. — *Баюся, што ўслед за перамогай Партыя рэгіёнаў паспрабуе яшчэ больш падпарадкаваць медыярынак. Гэта вельмі небяспечна, бо нам наадварот трэба было б сур'ёзна заняцца лібералізацыяй сферы СМІ. Даўно надышоў час рэалізаваць праект сапраўднага незалежнага грамадскага вяшчання. Падобны праект ужо агучвалі прадстаўнікі ўрада. Але ў нас ёсць сур'ёзныя сумневы датычна будучай незалежнасці і адкрытасці такога праекта пад кантролем прэм'ера Азарава. Аналізуючы наш маніторынг доступу ўсіх палітычных сіл да эфіру, бачым, што тэлеканал УТ1, да якога ўрад мае прамое дачыненне, займае самыя горшыя паказчыкі па адкрытасці і даступнасці».*

*«На мой погляд, задача журналісцкай супольнасці, усіх грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў зараз палягае ў стварэнні сапраўднага незалежнага тэлеканала, які б падчас прэзідэнцкай кампаніі даў магчымасць для шырокай палітычнай дыскусіі ідэяў»*, — кажа старшыня Нацыянальнага саюза журналістаў Украіны. І дадае: *«Калі першапачатковая задача зараз — гэта стварэнне грамадскага тэлебачання, то задача нумар два — раздзяржаўленне камунальных СМІ. Калі сродкі масавай інфармацыі не выйдуць з-пад урадавай залежнасці, то на наступных выбарах — а хутчэй за ўсё так і будзе — мы сутыкнёмся з тымі ж праблемамі».*

Маніторынгі сведчаць, што тэлеканалы ва Украіне падчас цяперашніх палітычных кампаній працуюць на баку ўладаў. Адзіны адносна апазіцыйны канал TVI напярэдадні выбараў быў фактычна выціснуты з усіх кабельных сетак. Уладальнікі сетак паводле неафіцыйнага распараджэння ставілі на месца TVI іншыя каналы.

*«Падчас апошняй парламенцкай кампаніі мы правялі цікавы эксперымент*, — распавядае старшыня Асацыяцыі тэлерадыёвяшчання Украіны Кацярына Мяснікова. — *Адзінаццаць журналісцкіх і праваабарончых грамадскіх арганізацый падрыхтавалі тэкст пагаднення пра забеспячэнне свабоды СМІ і прапанавалі падпісаць гэты дакумент усім палітычным структурам. Пагадненне ўтрымлівала дамову не распачынаць падзел медыяўласнасці, не выкарыстоўваць рэпрэсіі ў дачыненні журналістаў, а таксама іншыя гарантыі сродкам масавай інфармацыі. У выніку вельмі шмат было перамоваў з рознымі палітычнымі партыямі, і ўсе казалі, што гэта вельмі патрэбны дакумент, але не падпісаў яго ніхто. Самы папулярны адказ быў: "Пагаворым пра гэта пасля выбараў"».*

*«Атрымліваецца, што нават самыя прадэмакратычныя палітыкі пакідаюць за сабой магчымасць і ў будучыні карыстацца бруднымі тэхналогіямі, зводзіць рахункі з непажаданымі журналістамі і не даюць аніякіх гарантый для свабоды СМІ ва Украіне»*, — зазначае Мяснікова.

Нягледзячы на ўсю пярэстасць выбарчай кампаніі Украіны, якая кідаецца ў вочы пасля адпаведных беларускіх кампаніяў, парламенцкія выбары тут таксама праходзілі вельмі вяла, канстатуюць спецыялісты.

*«Адсутнасць свабоды СМІ вельмі моцна ўплывае на ўвесь выбарчы працэс. Бо калі няма сур'ёзных дэбатаў, няма і жадання ў людзей хадзіць на ўчасткі*, — канстатуе кіраўніца фонду "Дэмакратычныя ініцыятывы", адзін з самых вядомых украінскіх сацыёлагаў Ірына Бякешкіна. — *Апошняя кампанія пакінула ў людзей адчуванне агульнай расчараванасці: у выбарах, палітыцы, палітыках. Раней у нас расчароўвалася толькі палова насельніцтва: калі прыходзілі "памаранчавыя", іх прыхільнікі з часам расхалоджваліся. Потым наадварот — расчароўваліся прыхільнікі моцнай улады. Цяпер жа расчараваныя ўсе, бо на людзей забыліся абодва бакі».*

Паводле сацыялагічных апытанняў, за месяц да галасавання толькі палова ўкраінскіх выбаршчыкаў ведалі, што будзе не адзін бюлетэнь, а два. 30 % выбаршчыкаў перад галасаваннем не ведалі наогул ніводнага кандыдата ў сваёй акрузе.

Наўрад ці і кандыдаты дайшлі ці хоць бы сапраўды імкнуліся дайсці да кожнага — не да таго было ў запале выбарчай барацьбы.

Абсалютна ўсе эксперты прыходзяць да высновы, што памятаць пра людзей, лічыцца з іх меркаваннямі і прыслухоўвацца да іх патрэбаў украінскія палітыкі — як і палітыкі ва ўсім свеце — пачнуць толькі тады, калі свабода СМІ будзе гарантаваная ў грамадстве. Калі кожны з палітыкаў здолее свабодна ўздымаць непрыемныя для ўлады пытанні, а сродкі масавай інфармацыі не будуць пакараныя за публікацыю крытычных словаў.

Аднак увасобіць такую мадэль, на думку ўкраінскіх экспертаў, на постсавецкай прасторы ўдасца яшчэ не хутка. Магчыма, менавіта Украіна павядзе рэй ва Усходняй Еўропе ў галіне свабоды слова. Але на дадзены момант сітуацыя ў нашай паўднёвай суседкі яшчэ вельмі далёкая ад ідэалу.

*Кіеўскі майдан падчас парламенцкіх выбараў наведвалі Барыс Гарэцкі, Сяргей Кавалёў, Аляксандр Коктыш, Сяргей Пульша, Аліна Радачынская, Вольга Хвоін, Генадзь Шарыпкін і Раман Якаўлеўскі.*



**Ожидать конца всей жизни на планете Земля — дело далеко не такое интересное, как знакомиться с самой жизнью в отдельно взятой маленькой, но гордой стране…**

*Леонид ЗАИКО,*
*научный обозреватель*

# БЕЛМАРГЕДДОН:
## феномены светопреставления

Наше «все» сосредоточено в бигбордах с сердечными изысками, почитанием страны от детского возраста до глубокой старости. По бигбордам выходит, что своим стилем и образом жизни мы далеко опередили боязливых сожителей по нашей неповторимой планете. Скорее всего, именно мы и можем сделать ее неповторимой.

Но самое веселое в нашем бытии — сочетание официальной серьезной артикуляции и забавных моментов в экономической и социальной жизни страны. К концу года обострились именно такие сочетания.

Могучими усилиями отечественной номенклатуры осенью 2012 года в экономике стали происходить удивительные события. Они воплотились в квинтэссенцию результатов работы всей страны в течение текущего года. Как итог в официальных документах появилась удивительная статистическая оригинальность. Простая и сермяжная, как правда. Наша уникальная правда.

Смотрите, что получилось...




С такими диаграммами должны были ознакомиться высшие должностные лица страны, что они, уверен, и сделали. И промолчали, хотя народ должен знать своих героев — славных экономических полисимейкеров. Обломав в 2011 году обменный курс с трехкратной силой, наши чиновники сотворили этакий статистический и экономический армагеддон, который едва ли вытерпел бы электорат иной страны.

Наша сермяжная и домотканая правда (смотри диаграмму) свидетельствует: 2012 год — не обычный период в жизни, а год удивительный. Впервые в своей экономической истории мы оказались без ВВП. Сколько в номинальном выражении — знаем, но как это отличается от показателей прошлого года — сие есть загадка. Придумывайте, что хотите, официальные статистические службы это сделать не смогли.

Если мы попытаемся найти цифры, выудить их из статистических сборников, то придем именно в то необычное состояние, которое является конгруэнтным предпраздничному.

Начнем с простых величин. Осенью прошлого года страна отличилась трудовым энтузиазмом. Цифры были такими: ВВП за три квартала 2011-го составил 117,8 трлн рублей (так заявлялось официально год назад).

В этом году всеобщий и полный энтузиазм, амплифицированный медийными трубами, дал еще более впечатляющий, просто феноменальный результат: за три квартала 2012-го ВВП составил без малого 372,4 трлн рублей — 316.1 % роста номинального ВВП!

Конечно, в этих непростых условиях надо броситься сразу к поиску индекса, который называется «дефлятор». Пару десятилетий тому назад это слово пугало членов кабинета Кебича. Оно было как приговор всей системе знаний, почерпнутых из лекций по политэкономии социализма. И сменившего его, вопреки Марксу, капитализма. Но не это важно

